## Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА

Дырэктывы XXIV з'езда КПСС прадугледжваюць пабудаваць у 1971—1975 гадах жылыя дамы агульнай плошчай 565—575 мільёнаў квадратных метраў. Жыллёвае будаўніцтва ўсё ў большай меры будзе ажыццяўляцца па новых праектах, якія прадугледжваюць больш значную планіроўку, лепшае абсталяванне і аддзелку кватэр.

У шырэйшай ступені будзе развівацца жыллёва-будаўнічая кааперацыя, а таксама будзе шырэйшае садзейнічанне індывідуальнаму жыллёваму будаўніцтву ў горадзе і на вёсцы.

Вялікая ўвага будзе ўдзяляцца паляпшэнню камунальнага абслугоўвання і добраўпарадкавання населеных пунктаў. Пераважная колькасць гарадоў і буйных пасёлкаў гарадскога тыпу будзе забяспечана цэнтралізаваным водазабеспячэннем, павялічыцца спажыванне электраэнергіі для бытавых патрэб насельніцтва. За пяць гадоў намечана газіфікаваць 17—18 мільёнаў кватэр. Узровень газіфікацыі жыллёвага фонду ў гарадах складзе 65—75 працэнтаў, у вёсцы — 40—50 працэнтаў.

### РАЎНЯЮЦЬ З ЗЯМЛЁЙ

Масіраваныя налёты авіяцыі ЗША на тэрыторыю Лаоса нанеслі непапраўную шкоду нацыянальным каштоўнасцям гэтай краіны. Толькі ў гэтым годзе амерыканскія паветраныя піраты зраўнялі з зямлёй 12 пагад, у тым ліку вядомыя помнікі буддыйскай архітэктуры ў правінцыях Саванакет, Сараван і Чампасак. У час бамбардзіровак загінула больш як 50 буддыйскіх манахаў.

### ЗА НАРАДУ

Каля 90 працэнтаў англічан выступае за скліканне агульнаеўрапейскай нарады для абмеркавання пытанняў раззбраення і супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам. Такія даныя аналізу грамадскай думкі, праведзенага брытанскім камітэтам прыхільнікаў міру ў Лондане, Оксфардзе, Рэдзінгу і Абердыне.

### ПРАГНОЗЫ БЕСПРАЦОЎЯ

«Ю.С. ньюс энд уорлд рыпорт» — часопіс, які правёў аналіз праблемы занятасці ў Злучаных Штатах піша, што армія беспрацоўных у ЗША ў бліжэйшыя месяцы будзе павялічвацца.

Спасылаючыся на думку вядучых эканамістаў, буйных прадпрыемстваў і ўрадавых экспертаў, часопіс падкрэслівае, што «мала надзеі на хуткія змены ў эканоміцы, якія маглі б істотна знізіць узровень беспрацоўных».

Амерыканскі часопіс напамінае, што, паводле афіцыйных даных, у сакавіку армія беспрацоўных дасягнула амаль 5,2 мільёна чалавек, або 6 працэнтаў усёй рабочай сілы краіны.

### ПАВЫШЭННЕ ЦЭН

Нацыянальнае ўпраўленне вугальнай прамысловасці Англіі аб'явіла нядаўна аб павышэнні цэн на вугаль на 8—15 працэнтаў з 1 ліпеня гэтага года. (ак)



## БССР

### ПАСЛЯЗ'ЕЗДАЎСКІ ЎЗДЫМ

З усіх куткоў БССР наплываюць паведамленні аб трудавым пасляз'ездаўскім уздыме. «Рашэнні XXIV з'езда партыі — у жыццё!» — гэты лозунг вельмі часта можна зараз пачуць на заводах і прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах.

Рабочыя Мінскага радыёзавода рашылі прадоўжыць працоўную вахту, пачатую да з'езда. Яны паабяцалі завяршыць гадавую вытворчую праграму да 26-га снежня. Варта адзначыць, што ў рабоце з'езда прымала ўдзел член рабочага калектыву Мінскага радыёзавода, камуністка С. А. Місевіч.

Гродзенскія бавоўнапрадзільшчыкі ў гонар з'езда выпусцілі звыш плана 80 тон пражы. Цяпер працуюць яны пад дэвізам: «Пяцігодку — за чатыры гады!» Дзеля гэтага ў рабочых з Гродна ёсць дакладна апрацаваны план дзейнасці. «Мы абавязаліся, — пішуць яны, — паказаць узоры арганізаванасці і дысцыпліны, кожны змагаецца за ўкараненне новай тэхнікі, перадавой тэхналогіі, навуковай арганізацыі працы. Мы даём слова зменныя нормы выканаць на 125 працэнтаў».

Таксама павышанымі тэмпамі працы адказваюць на гістарычныя рашэнні XXIV з'езда партыі станкабудаўнікі, рабочыя вагонарамонтнага завода, завода аўтаматычных ліній і домкамбіната № 1 у Мінску, калектыў Віцебскага дывановага камбіната, працаўнікі Брэсцкай канфекцыйнай фабрыкі, торфаздабывальнікі Лідскага раёна, працаўнікі Пружанскай аўтабазы № 11, энергетыкі Васілевіцкай ДРЭС і многія, многія іншыя.

### НОВЫ ЗАВОД

На ўсходняй ускраіне горада Бабруйска, згодна з дырэктывамі XXIV з'езда КПСС, пачалося будаўніцтва завода трактарных раскідальнікаў угнаенняў. Яго магутнасць разлічана на 66 тысяч агрэгатаў у год, што ў 6—7 разоў пераўзыходзіць магутнасць ужо існуючага завода «Бабруйсксельмаш».

### РАДЫЁСУВЯЗЬ НА ПАЛЯХ

У брыгадах вёсак Міхалінава, Калінаўка, Казіяны, Русаны і Гарэлькі саўгаса імя Чарняхоўскага Дубровенскага раёна ўстаноўлены радыёстанцыі «Марс». Цяпер дырэкцыя гаспадаркі можа ў вызначаны час наладзіць сувязь з кіраўнікамі брыгад, жывёлагадоўчых ферм, праводзіць радыёперапіску. Гэта шматзначна аблягчае кіраванне гаспадаркай.

### БІБЛІЯТЭКА

Бібліятэка ў горадзе Мір існуе ад першых год нашага стагоддзя. Нядаўна атрымала яна новае, спецыяльна пабудаванае памяшканне. Да паслуг кнігалюбаў абсталявана там чытальная зала. Чытачы маюць свабодны доступ да кніг. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### IX ПЛЕНУМ

16 красавіка адбылося IX пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта ПАРП.

У першым пункце парадку дня I сакратар ЦК Эдвард Герэк прадставіў Цэнтральнаму Камітэту справаздачу аб XXIV з'ездзе КПСС, звяртаючы асаблівую ўвагу на тыя праблемы, якія маюць вялікае значэнне ў дзейнасці і нашай партыі. Да праблем такіх належыць у першую чаргу справа хутчэйшага павышэння жыццёвага ўзроўню працоўных мас, паляпшэнне метадаў кіравання гаспадаркай, павелічэнне прадукцыі сельскай гаспадаркі.

У другім пункце парадку дня з прамовай выступіў сакратар ЦК Эдвард Бабюх, які прадставіў справаздачу аб дзейнасці Палітбюро і Сакратарыята ЦК. Звярнуў ён асаблівую ўвагу на крокі, зробленыя для паляпшэння жыццёвага ўзроўню працоўных мас, палітычнай стабілізацыі ў краіне, павышэння аўтарытэту партыі і яе сувязі з народам.

Член Палітбюро, Прэзас Рады Міністраў Пётр Ярашэвіч зрабіў інфармацыю аб працы ўрада ў галіне выконвання пастаноў VII і VIII пленумаў Цэнтральнага Камітэта. У сувязі са справаздачай аб XXIV з'ездзе КПСС пленум прыняў пастанову, у якой сцвярджаецца, што рашэнні з'езда маюць вялікае значэнне для развіцця міжнароднага камуністычнага і рабочага руху і для ўсіх прагрэсіўных сіл на свеце. Цэнтральны Камітэт ПАРП звяртаецца да ўсіх партыйных арганізацый і ўстаноў, каб усебакова вывучалі матэрыялы і дакументы з'езда, папулярызавалі іх сярод рабочага класа і ўсяго грамадства.

Пленум прыняў таксама пастанову ў справе справаздачы аб працы Палітбюро, Сакратарыята ЦК і ў справе працы ўрада. У пастанове сцвярджаецца, што дзейнасць Палітбюро і Сакратарыята ЦК, а таксама дзейнасць урада былі згодныя з пастановамі і ўказаннямі VII і VIII пленумаў ЦК.

Пленум аднагалосна прыняў пастанову аб скліканні VI з'езда партыі на пераломе 1971—1972 гг. У сувязі з гэтым пленум выбраў з'ездавую камісію. Пленум выбраў сакратаром Цэнтральнага Камітэта ПАРП Станіслава Каню. Адначасова дакааптаваны да Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю Станіслаў Паўляк.

### У СПРАВЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыум Галоўнага Камітэта Аб'яднанай сялянскай партыі (ЗСЛь) на супольным пасяджэнні 14 красавіка прынялі пастановы ў справе знясення ад 1 студзеня 1972 года абавязковых паставак жывёлы, збожжа і бульбы, у справе прынцыпаў утрымання Фонду сельскагаспадарчага развіцця, рэформы зямельнага падатку з улікам змяншэння абавязковай дагэтуль прагрэсіі, замены датыхчасовых пастаноў аб гаспадаранні зямлёю і ў іншых справах, важных для хутчэйшага развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці і паляпшэння ўмоў жыцця працоўных мас. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАДРЫХТОЎКА ДА 1 МАЯ

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася сустрэча прадстаўнікоў партыі, палітычных і маладзёжных арганізацый, прадстаўнікоў навуковых, творчых і грамадскіх арганізацый з удзелам I сакратара ВК А. Лашэвіча на тэму падрыхтоўкі да святкавання 1 Мая.

На сустрэчы было вырашана, што, як і ў мінулыя гады, ва ўсіх павятовых гарадах адбудуцца ўрачыстыя пасяджэнні, мітынгі і дэманстрацыі. Мітынгі адбудуцца таксама ў мястэчках, а на вёсках жыхары сустрэнуцца на ўрачыстых сходах, прысвечаных Першамаю.

У Беластоку адбудзецца 30 красавіка ў тэатры імя А. Вянгеркі ўрачыстае пасяджэнне, а 1 Мая працоўныя горада выйдуць на першамайскую дэманстрацыю, якая пройдзе, як і ў папярэднія гады, вуліцай М. Складоўскай-Кюры.

Створаны таксама ваяводскі камітэт падрыхтоўкі да Першамая. Старшынёй яго выбраны I сакратар ВК А. Лашэвіч.

### СУСТРЭЧА З I САКРАТАРОМ

У сувязі з месяцам народнай памяці і 10-годдзем дзейнасці грамадскага камітэта аховы помнікаў барацьбы і мук I сакратар ВК А. Лашэвіч прыняў членаў прэзідыума камітэта аховы помнікаў на чале з яго старшынёй Р. Лазаровічам. У час сустрэчы тав. А. Лашэвіч падкрэсліў вялікае выхаваўчае значэнне дзейнасці камітэта і неабходнасць яшчэ большай папулярызацыі ўзброенай барацьбы і мартыралогіі грамадства Беласточчыны ў час другой сусветнай вайны.

### ПАПУЛЯРЫЗАТАРЫ ГІГІЕНЫ

У Ваяводскім праўленні ЗМВ адбылося пленарнае пасяджэнне ваяводскай рады здароўя. У пасяджэнні ўдзельнічалі лекары, якія вядуць грамадскія школы здароўя на вёсцы. У апошнія 10 гадоў школы здароўя існавалі ў 1200 вёсках. На пасяджэнні абмяркоўвалася праца ГП ЗМВ у галіне медыцынскай асветы на вёсцы і асабліва справа гігіенізацыі вёскі. Многія лекары — грамадскія дзеячы атрымалі ўзнагароды ЗМВ.

### ТЫДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ

Ад 18 да 25 красавіка працягваецца тыдзень культуры на дарогах. Вялікая ўвага ў сёлетнім тыдні звернута на сужыццё шафёраў і пешаходаў, на высвятленне небяспекі, якая пагражае абодвум бакам на шашы, і асаблівая ўвага звернута на дапамогу старэйшым людзям пры пераходзе праз вуліцу. Дарожная служба МО і інспектары ОРМО будуць рабіць усё, каб забяспечыць пешаходу спакойны пераход у вызначаных месцах, а пешаходы павінны памятаць, што шаша і сярэдзіна вуліцы прызначаны для аўтамашын.

### I МЕСЦА Ў КРАІНЕ

Работнікі беластоцкай драўніннай прамысловасці заваявалі I месца ў краёвым спаборніцтве за мінулы год. Беластоцкае акруговае прадпрыемства драўніннай прамысловасці атрымала пераходны сцяг міністра лясніцтва і драўніннай прамысловасці і Галоўнага праўлення свайго прафсаюза. Перадавыя рабочыя атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. (яч)




**Niedziela 25.IV.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Wykorzystanie pasz zielonych wiosną". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Bella i Sebastian" — film. 10.00 „Złote wrota" (Praga). 11.00. Transmisja łączona z meczów piłki nożnej o mistrzostwo I ligi Gwardia — Wisła. Spotykają się GKS — Legia, Pogoń — Zagłębie. 13.35 Dziennik. 13.50 „Przemiany". 14.20 Dla dzieci: „Co to jest?" — zabawa — konkurs. 15.20 „Tele-Uniwersjada" — walczy Uniwersytet M. Kopernika w Toruniu z Uniwersytetem Warszawskim. 16.20 „Claude Debussy — kolorysta dźwiękowy" („Spotkania z muzyką"). 17.00 „Klub Sześciu Kontynentów". 17.40 PKF. 18.00 „Zapraszamy na pół czarnej". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Na tropie sokoła" — film fab. NRD. 21.50 Magazyn sportowy. 22.20 Studio Współczesne: T. Różewicz — „Wyszedł z domu".

**Poniedziałek 26.IV.**

15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.30 „Szczecińskie Muzy" — film. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Świrszczyńska — „Orfeusz". 21.20 „W pustyni, w puszczy i w studio" — rep. film. cz. I. 21.45 „...że dni nasze, dni wiosenne" — program estradowy. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 27.IV.**

10.00 „Egoistka" — film fab. radz. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Produkcja hodowlana w gospodarstwie". 15.20 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „W kraju Basków" — film Tele-Aru. 18.45 „Ludzie inicjatywy, propozycje". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Egoistka" — film fab. radz. 21.30 „Tańczy Wojciech Wiesiołłowski" — program baletowy. 21.45 „Panorama potrzeb" — program ekonomiczny. 22.15 Dziennik.

**Środa 28.IV.**

8.45 „Krupp i Krause" — film fab. NRD cz. III. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wielki Proletariat". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 12.45 „Wybieramy zawód". 15.00 Program specjalny dla drużyn Związku Harcerstwa Polskiego. 15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Trzy pstre przepiórzyce" („Telewizja i ty"). 17.10 PKF. 17.20 Magazyn ITP. 17.35 „Odnowa miasta". 18.00 Kino Filmów Amatorskich. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Wielcy znani i nieznani" — „Com sobie ułożył, to wypełniłem" (Samuel Bogumił Linde). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Krupp i Krause" — film fab. NRD cz. III. 21.05 „Światowid". 21.35 „Forma i treść" — XXIV program („Słuchamy i patrzymy"). 22.45 Dziennik.

**Czwartek 29.IV.**

8.15 Matematyka w szkole: „Elementy algebry liniowej" (zajęcia fakultatywne — II). 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Broniewski". 15.00 Program specjalny dla drużyn Związku Harcerstwa Polskiego. 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Sprawozdanie z biegu maratońskiego na trasie Zamek Królewski — Wilanów — Zamek Królewski. 18.40 Koncert Muzyki Klasycznej. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Matka chrzestna" — rep. 20.20 „Podwójna gra" — film fab. ang. 21.30 „O stanie oświaty" — rozmowa z prof. dr J. Szczepańskim. 21.50 Przegląd muzyczny. 22.20 Dziennik.

**Piątek 30.IV.**

10.00 Film fabularny pol. „Jutro Meksyk". 14.00 Program tygodnia. 14.30 Fizyka dla nauczycieli: Eksperymenty pokazowe i laboratoryjne w dziale: „Fizyka ciała stałego". 15.00 Program specjalny dla drużyn Związku Harcerstwa Polskiego. 15.20 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.20 „Nie tylko dla pań". 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 „Kraj". 18.30 Dymitr Szostakowicz — III Symfonia „Pierszomajowa". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Program z okazji Święta 1 Maja". 21.30 Dziennik 21.50 „Hydrozagadka" — film TVP.

**Sobota 1.V.**

7.50 Program dnia. 7.55 Sprawozdanie z manifestacji 1-Majowych w Kraju i zagranica. 13.00 „Budowniczowie Polski Ludowej" — rep. 13.30 Tańczą i śpiewają zespoły Ludowe — laureaci Ogólnopolskich Festiwali Folklorystycznych. 14.15 „Piórkiem i węglem". 15.00 Dla młodych widzów: „Z piosenką i tańcem przez Polskę" — występ dziecięcego zespołu pieśni i tańca ze Stalowej Woli. 15.30 Film fabularny. 17.00 „Czeremcha i bez". 18.00 Międzynarodowy mitting lekkoatletyczny z okazji Święta 1 Maja. Sprawozdanie ze Stadionu RKS „SKRA" w Warszawie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Kalejdoskop". 21.10 Monitor. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.50 „Kocie ślady" — film fab. TVP. 23.05 „Kram z piosenkami" — program rozrywkowy.




**Piątek, 23 kwietnia**

16.05 Dla dzieci. 16.30 Bitwa smoleńska. 17.00 Film fab. 18.05 Czas. 18.30 Piłka nożna. CSKA — „Nieftczi" (Baku). 19.15 Film dokumentalny. 20.00 Program estradowy.

**Sobota, 24 kwietnia**

10.45 Film fab. 11.50 W eterze „Młodość". 15.00 Piłka nożna. „Spartak" (Moskwa) — SKA (Rostów). 16.45 Program cyrkowy. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Międzynarodowe zawody gimnastyczne. 21.00 Melodie wieczorne.

**Niedziela, 25 kwietnia**

9.45 Film fab. 10.55 Film animowany. 11.15 Dla żołnierzy. 13.00 Spotkania muzyczne. 13.30 Klub filmowy. 14.20 Poszukiwanie. 15.05 Klub Wesołych. 17.00 Czas. 17.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Zaria" (Woroszyłowgrad). 18.15 Hokej. CSKA — CKA (Leningrad). 19.35 TV film fab. 20.05 Międzynarodowe zawody gimnastyczne.




Асветная праблематыка часта паяўляецца на старонках газет, радыё, тэлебачання. Нават па-за межамі нашай краіны Польшчу называюць «Краінай вучачыхся людзей». Усё гэта асабліва відавочна ў нас, на Беласточчыне, якая ў мінулым была найбольш адсталай у галіне асветы. Найстарэйшы горад Беласточчыны — Бельск Падляшскі налічвае зараз два агульнаадукацыйныя ліцэі, ліцэі эканамічны і медсясцёр, тэхнікум сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, прафесіянальная і сельскагаспадарчая школы, ёсць будаўляная школа. Нездарма і Бельск называюць горадам вучачайся моладзі.

НЕКАЛЬКІ ГОД ТАМУ НАЗАД

Пасля вызвалення ўлады непасрэдна прыступілі да ўладкавання асветных спраў. Усе, хто толькі добра ўмеў чытаць і пісаць, прыступілі да ліквідацыі непісьменнасці. Ад вызвалення Бельшчыны па 1949 год 1.118 асоб навучылася чытаць і пісаць. Аднак статыстычныя даныя гавораць, што ў тагачасным Бельскім павеце налічвалася каля 16 тысяч непісьменных. Нягледзячы на арганізаванне вышэйшых форм асветы дарослых, надалей першапланавай была барацьба з непісьменнасцю і малапісьменнасцю. Па 1951 год курсы для непісьменных і малапісьменных закончыла 8 тысяч чалавек.

Далейшае развіццё гаспадаркі і культуры патрабавала вышэйшых форм адукацыі дарослых. Пачалася масавая арганізацыя рознага тыпу форм асветы для дарослых. Асабліва распаўсюдзіліся курсы, якія гарантавалі заканчэнне пачатковай школы. Пачынаючы ад 1952 года ў Бельскім павеце арганізавалася кожны год каля 20 курсаў. У асноўным былі гэта курсы на заканчэнне класаў V—VII.

За перыяд апошняй пяцігодкі арганізавана 57 агульнаадукацыйных курсаў, дзе паасобныя класы пачатковай школы закончыла 628 чалавек. Пераважная іх колькасць — гэта курсы на заканчэнне сёмага класа.

Зараз усё часцей гаворыцца аб усеагульнай сярэдняй школе. Даволі шырока распаўсюджаны прафесіянальныя школы, якія даюць магчымасць атрымаць адпаведную прафесію людзям з закончанай пачатковай адукацыяй. Многія школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі маюць свабодныя месцы.

КАНТРАСТЫ СУЧАСНАСЦІ

А тым часам у пагоні за спецыялістамі і за ўсё вышэйшай адукацыяй адышлі на далейшы план справы, звязаныя з арганізацыяй курсаў для заканчэння пачатковай школы. А вось факты з Бельскага павета.

У цякучым навучальным годзе на Бельшчыне налічваецца аж 3.276 чалавек без закончанай пачатковай школы. Неабходна дадаць, што гэта людзі ва ўзросце 17—40 год. Мала таго, зараз у Бельскім павеце 93 асобы непісьменныя, а 138 чалавек малапісьменных. Узрост іх не вышэй 50 год. Інакш гаворачы, гэта людзі, якія працуюць ва ўстановах і на прадпрыемствах або займаюцца гаспадаркай.

Аналіз, зроблены нядаўна ва ўстановах і на прадпрыемствах павета, паказаў, што працуе тут аж 245 чалавек, якія не маюць закончанай пачатковай школы. І што дзіўнае, аж 188 з іх працуе ў самым Бельску, пад бокам тых, хто пакліканы, каб дапамагчы і заахвоціць людзей да адукацыі. Напрыклад, у спулдзельні вясковага транспарту 16 чалавек не мае закончанай пачатковай школы, на прадпрыемстве мясной прамысловасці — 16, у раёне эксплуатацыі дарог — 15, а ў рашарні ільну аж 32 чалавекі.

Не найлепш справа выглядае і ў некаторых вёсках. Характэрным з'яўляецца тут факт, што вялікую колькасць людзей (ва ўзросце 17—40 год), якія не маюць закончанай пачатковай школы, маюць толькі некаторыя вёскі. А вось яны: Малочкі — 73, Орля — 74, Маліннікі — 64, Катлы — 54, Кнаразы — 58, Плюцічы — 50, Волька Выганоўская — 55.

З другога боку вядома, што аддзел асветы на арганізацыю курсаў для дарослых мае такую колькасць грошай, якая на гэта патрэбна. Дык чаму кепска, калі так добра? Здаецца таму, што гэтыя справы пакінуты выключна аддзелам асветы. Не займаюцца гэтым і ўстановы, прадпрыемствы і грамадскія арганізацыі. А працуючым людзям трэба ж даць *не толькі магчымасці заканчэння школы, але і стварыць адпаведныя ўмовы да навукі на месцы іх працы.*

На вёсцы ў гэтым напрамку можа многа зрабіць БГКТ-оўская арганізацыя.

А для ліквідацыі такога стану, як у Бельскім, неабходна апрацаваць план з указаннем на заданні ўсіх арганізацый у галіне адукацыі дарослых.

*А. Лабановіч*

*Людзі тэатра*

## „Мы працуем для людзей"



У сувязі з Міжнародным днём тэатра таксама абодва беластоцкія тэатры — драматычны імя Вянгеркі і тэатр лялек «Свершч» адзначылі свае свята. Напярэдадні гэтага дня адбылося спатканне акцёраў з уладамі ваяводства і журналістамі.

Беластоцкія тэатры здабылі сабе поўнае прызнанне публічнасці горада Беластока, і, што найважнейшае, усяго ваяводства. Акцёраў і іх працу ведаюць і сардэчна прымаюць гледачы павятовых гарадоў і вёсак. Якраз гэтая рыса дзейнасці беластоцкіх тэатраў — іх непарыўная сувязь з кожным чалавекам — найбольш цэніцца самімі акцёрамі. Дырэктар тэатра Вянгеркі Браніслаў Орліч сказаў на спамянутым спатканні: «Мы працуем для чалавека, для яго культурнага і мастацкага росту. Мы адчуваем сябе патрэбнымі тут, на Беласточчыне і для Беласточчыны. І гэты факт дае нам радасць».

Заслужаныя работнікі тэатра атрымалі ўзнагароды.

На здымку: момант уручэння адзнакі «Заслужаны для Беласточчыны» Дануце Аклоце (першая справа) — шматгадовай актрысе тэатра «Свершч». Зразумела, голасам пані Дануты ў тэатры «Свершч» адзываюцца героі казак — разумныя і дасціпныя постаці Ясяў і Касяў. У глыбі на здымку Браніслаў Орліч і Станіслаў Яшкоўскі. Адзначэнні ўручае намеснік старшыні Прэз. ВРН Рамуальд Лазаровіч.

(вл)

*фота: П. Савіцкі*

## ВЕСНАВЫЯ МУЗЫЧНЫЯ АДГАЛОСКІ

III агульнапольскі фестываль «Музыка і паэзія» праходзіў у лютым бягучага года. Было пра яго ўжо многа артыкулаў у ваяводскіх і цэнтральных газетах. Наогул хвалілі.

Беластоцкі сімфанічны аркестр паведаміў нам аб падліках, якія правёў пасля фестываля. Вось яны: адбылося разам 14 канцэртаў — 8 вечароў былі прысвечаны музыцы і паэзіі, 4 мерапрыемствы таксама на тую ж тэму праводзіліся як дадатковыя, толькі з той розніцай, што былі больш камеральныя. Адбыўся агляд фільмаў пра музыку. У файе тэатра арганізавана выстаўка мастацкай тканіны з усяе Польшчы.

Гледачоў было на канцэртах фестываля 7623. Заплацілі яны разам 91 тысячу 215 злотых. (вл)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я працаваў на прадпрыемстве тры гады. За 1970 год я выкарыстаў водпуск. У канцы кастрычніка 1970 г. прадпрыемства паведаміла мне аб звальненні мяне з працы ад 1 лютага 1971 года. Ці прыслугоўвае мне водпуск за 1971 год?

АДКАЗ: Паводле закону аб водпусках працаўнік набывае права на першы водпуск пасля аднаго году працы, а права на наступны водпуск — у кожным наступным каляндарным годзе. Гэта азначае, што калі б вы працавалі ў 1971 годзе хоць адзін дзень, то набываеце права на водпуск у гэтым годзе. У вашым выпадку, паколькі вас звольнілі з днём першага лютага, прыдзяленне вам водпуску немагчыма, але вы можаце патрабаваць выплаты грашовага эквіваленту.

## ЯШЧЭ ПРА „БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ 1971"

Ніжэй падаем увагі ТАДЭВУША КАЛДОЎСКАГА — музыколага, які быў старшынёй камісіі ў конкурсе «Беларуская песня 1971».

«Добра, што прапагандуем беларускую песню, што сягаем да фальклору, каб якраз народныя рэгіянальныя песні знаходзіць і аберагаць, каб не былі яны забыты. Вельмі добра, што рэдакцыя «Нівы» бачыць фальклор і для яго прызнае спецыяльную ўзнагароду.

Трэба набліжаць народныя мелодыі да сучаснасці, хоць перадаваць іх можна ў розных рытмах.

Сэрца радуецца, што некаторыя выканаўцы мелі народныя ўборы. Пастарайцеся ў будучыні паказаць свае рэгіянальныя ўборы як найчасцей!

А зараз некалькі спраў і падказак, якія прыйшлі мне ў галаву ў сувязі з другім конкурсам «Беларуская песня 1971»:

*Вымаўленне:* у кожнай песні вымаўленне павінна быць вельмі выразнае. Народную песню трэба таксама перажываць, не спяваць безасабова, але перажыванні свае перадаваць слухачам.

*Рух:* большы ці меншы, але ён павінен быць лагічны і ў адпаведным месцы.

*Зрок:* спяваць да публікі і глядзець трэба на публіку, не бачачы яе. Перадаваць сваю песню людзям, а не сцяне.

*Установка:* добра, калі на сцэне выканаўца стаіць, як мадэль, адна нага, напрыклад, уперад. Тады проста лепшыя бываюць уражанні.

*Голас:* няпраўда, што трэба спяваць голасна, крычаць. Трэба спяваць нармальна і нават з меншым голасам, калі ў мікрафон. Калі спявак крычыць, то вельмі брыдка.

*Акампаніямент:* павінен быць згодны са спевам. Альбо спявак павінен дастасавацца да акардэаніста, або акардэаніст да спевака. Акардэаністы, якіх мы чулі, не выходзілі найлепш. Правая рука ў іх яшчэ працавала, левая была няспраўная. Некаторыя спявалі без акампаніяменту. Ці не варта было здабыць яго? Фальклорная песня можа абысціся без акампаніяменту, іншыя аднак патрабуюць музычнай падкладкі. Ці не можна было б у будучыні падумаць аб пастаянным акампаніяменце? Ці не варта б падумаць таксама аб уступнай рэпетыцыі ўсіх удзельнікаў конкурсу?

*Музычны калектыў:* Музычны калектыў, як акампаніямент, павінен даваць першынства салісту, не можа яго прыгнятаць. Акампаніямент павінен быць далікатнейшы, цішэйшы, пазваляць салісту самому выспявацца, а не глушыць яго.

*Музычная культура:* я прыхільнік музычнай выканаўчай культуры. Яна абсалютна павінна выступаць на сцэне, як неадлучны элемент. Што гэта такое? Гэта проста гаворачы: як прадстаўляецца нам са сваёй песняй выканаўца, яго паводзіны, жэсты, выгляд, убор, яго ўнутраны выраз, адным словам яго агульная культура».

*Запісала Вера Леўчук*

## „МУЗЫКА БЛІЖЭЙ ВЁСКІ" Ў МАІ

Пад такім лозунгам Беластоцкі сімфанічны аркестр арганізуе ў Днях асветы, кніжкі і прэсы ў маі 10 канцэртаў для клубаў «Руху» на вёсцы. Канцэрты прызначаны і адбываюцца ў найлепшых клубах, найбольш заслужаных у грамадска - культурнай працы на вёсцы. Праграма канцэртаў — папулярная музыка польская і іншаземная.

У самым Беластоку, таксама з нагоды майскіх Дзён асветы, кніжкі і прэсы, у гарадской бібліятэцы адбудзецца вялікі канцэрт музыкі Баха, Сарасаці і Бетховена.

(вл)

## Фальклор

## ХРЫСЦІННАЯ ПЕСНЯ

Як я буду дзіця мела, о ё-ёй,
У чом я буду спавівала, Янка мой?
Маеш, міла, два фартушкі,
Адзін падрэш на пялюшкі,
О ё-ёй, о ё-ёй.

Як я буду дзіця мела, о ё-ёй,
Гдзе я буду кумоў брала, Янка мой?
Маеш сёстру, а я брата,
Будзя кумоў поўна хата,
О ё-ёй, о ё-ёй.

Як я буду дзіця мела, о ё-ёй,
У чом я буду калыхала, Янка мой?
Мы паедзем да Міхалова,
Там калыска ёсць гатова
О ё-ёй, о ё-ёй.

Як я буду дзіця мела, о ё-ёй,
Будзя тата наракаці, Янка мой.
А што тату есць за скука,
Нехай тата бавіць ўнука
О ё-ёй, о ё-ёй.

Як я буду дзіця мела, о ё-ёй,
Будзя мама міне ругала, Янка мой.
А што мамі есць да тэго,
Ніхай мама зробіць свэго
О ё-ёй, о ё-ёй.

*Запісаў на Сакольшчыне*
*У. Хомік*



Коціці. *Фота: Я. Цялушэцкі*

КНІЖКА ПРА БЕЛАСТОЦКІХ АНТЫФАШЫСТАЎ

У БССР з'явілася кніжка «У барацьбе загартаваныя». Напісаў яе дацэнт В. Верхась з Гродна. Расказвае яна пра барацьбу падпольшчыкаў-антыфашыстаў Беластока. Паведамляючы аб выхадзе кніжкі, мінская «Чырвоная змена» піша, што аўтару кніжкі давялося правесці крапатлівую работу па пошуку ўдзельнікаў Беластоцкага падполля і што не ўсе ўдзельнікі знойдзены. В. Верхась працягвае пошук.

# КРАСУЛІ НА БАЛОЦЕ



Спакойна і ціха плыве Нараў. Як жыццё сялян у Беластоцкім павеце, тэрыторыю якога ад усходу на захад перасякае гэтая рака. Бы сёстры або дзеці далучаюцца да яе рэчкі Супрасль, Сакалда, Плоская, Чорная і іншыя. А між імі — зялёнае балота, прасторная сенажаць.

Зямельных угоддзяў у Беластоцкім павеце налічваецца каля 120 тысяч гектараў. На пасбішчы і сенажаць прыпадае з гэтага звыш 35 працэнтаў. Многа, а прынамсі дастаткова, каб стварыць базу для развіцця гадоўлі красуль і іншых чырвоных або лацятых.

Трава, асабліва свежая, зялёная, як даказваюць спецыялісты, лепшы корм за авёс, бо з аднаго гектара дае ў тры разы больш бялка. Проста кароўе масла.

Аднак добрая трава расце толькі на меліяраванай і загаспадаранай сенажаці. А ў гэтай галіне Беластоцкі павет, як і цэлае Беластоцкае ваяводства, маюць перад сабой яшчэ шмат працы. На амаль 42 тысячы гектараў зялёных угоддзяў, якія знаходзяцца ва ўладанні гаспадароў з Беластоцкага павета, толькі каля 16 тысяч гектараў ужо парэзана меліярацыйнымі канавамі і равамі, а загаспадарана яшчэ менш.

Каго тут вініць? На жаль, няма каго. Такі быў план, на столькі хапіла грошай і столькі выканана. Усё тады нібы ў парадку. Затрат ніхто не лічыў, ды як іх палічыць?

Ураджай сена на загаспадаранай, высокакультурнай сенажаці з 52 цэнтнераў у 1968 годзе павялічыўся да 73 цэнтнераў у 1970 годзе. Звыш 20 цэнтнераў больш добрага корму з такой жа самай плошчы! Ці ж гэта не добра, за якім хопіць толькі ўмела сягнуць рукой?

Сягнуць умела — значыць не пашкадаваць грошай — спярша на меліярацыю, а пазней — на штучнае ўгнаенне.

Прэзідыум павятовай рады, каб дасягнуць гэтага, рашыў, пачынаючы ад восені мінулага года, штучныя ўгнаенні на сенажаць высяваць калектыўна. Арганізатарамі гэтага мерапрыемства маюць быць сялянскія водныя суполкі.

Першыя спробы такой работы выклікалі ўжо засцярогі сялян. Некаторыя гаспадары не вераць наёмным рабочым, што яны выканаюць сваю працу без ніякіх памех, што па дарозе не загіне «выпадкова» нейкая частка каштоўнага штучнага ўгнаення, прызначанага на іх сенажаць, што, гавораць, трактары разрываюць ім зялёныя дзялянкі, што ўрэшце, кажуць, навошта маем даволі дорага плаціць за тое, што можам зрабіць самі?

І сапраўды, ніхто нікога не прымушае прылучацца да супольнага дзеяння. Можна самастойна, калі ласка. Толькі пад наглядам агранома, каб была гарантыя, што трава атрымала столькі мінеральнай ежы, колькі яна сапраўды патрабуе і тады, калі патрабуе.

Красулі выйшлі ўжо на балота. Няма каму іх пасвіць. Толькі ва ўспамінах старэйшых людзей з'яўляюцца яшчэ малюнкі «сіроткі Марысі», што за кароўкай хадзіла, або «дурнога Ванькі», які выводзіў коней на начное пасбішча. Сёння вясковыя Марысі і Ванькі вучацца ў школе або адпачываюць у лагерах, а старэйшыя, як і даўней ад вясны да восені цэлымі днямі працуюць у полі. Дык іх красулі найчасцей бразгочуць ланцугамі, равуць ад спёкі і трацяць малако.

Патрэбныя электрычныя пастухі. Гэта зусім простыя абсталяванні. Куды ім да касмічных караблёў! Іх, на жаль, не хапае, асабліва пастухоў батарэйных. І цана на іх, здаецца, аднак завысокая. Добра было б, каб дамарослыя канструктары праявілі ўласную ініцыятыву ў гэтай галіне. Аднак занятак гэты не зусім бяспечны, бо з электрычным токам жартаў няма. Можна самому папарыцца і загубіць жывёлу.

Усё ж штосьці рабіць трэба, бо вось у цэлым Беластоцкім павеце ў мінулым годзе было толькі 154 пастэўнікі, абсталяваныя згодна з рацыянальнымі нормамі правільнага выкарыстання зялёнага дабра. Сярод іх толькі 29 сельскагаспадарчая служба прызнала за прыкладныя.

Не лепш выглядае справа з падрыхтоўкай зялёнага корму на зіму. На панадворках гаспадароў Беластоцкага павета знаходзіцца цяпер звыш 4 тысяч сіласных ям. Як устанавілі калектывы сельскагаспадарчых спецыялістаў, толькі палавіна з іх была выкарыстана для нарыхтоўкі сіласу. На адну красулю прыпадала ў мінулым годзе ледзь па 6,5 кілаграма сіласнай масы. Колькасць смешна малая, меншая ад дзённай порцыі для адной каровы. Ды гэта ж яшчэ быў сярэдні павятовы паказчык. Магло тады здарыцца, што ў пераважнай колькасці гаспадароў зусім не хапала сіласнага, вельмі ж карыснага зімой корму. Тут перш за ўсё ўказваюць на недахопы ў грамадах: Гарадок, Каралёў Мост, Шымкі, Юшкаў Груд і Казінцы. Крыху лепш было ў грамадах Яжэва, Тыкоцін і Златарыя.

Поспехі ў гадоўлі красуль залежалі таксама ад іх якасці, ад пароды. У Беластоцкім павеце, як і амаль у цэлым ваяводстве, дамінуючай пародай з'яўляецца нізінная чырвона-польская. Усё часцей прыходзіцца слухаць крытычныя, адмоўныя заўвагі ў адрас гэтай пароды. Гаспадары хацелі б гадаваць чорна-белых красуль. Яны якасна шмат лепшыя, даюць больш малака. Аднак патрабуюць болей старанната догляду і лепшага корму. Наўрад ці існуюць зараз у Беластоцкім павеце адпаведныя ўмовы для паспяховай гадоўлі гэтай пароды. Найперш трэба навучыцца, як добра, па-сучаснаму гаспадарыць на сенажацях, як рыхтаваць запас корму на зімовы перыяд. Трэба мець кароўнікі — ды не абы якія, а сучасныя, светлыя, механізаваныя. Можа тады ў Беластоцкім павеце, там менавіта, дзе спакойна плыве Нараў, весялей адазвуцца сялянскія красулі. І будзе іх больш. Бо дагэтуль, як указваюць павятовыя ўлады, не было чым пахваліцца. На кожныя 100 гектараў зямельных угоддзяў прыпадала ў 1970 годзе каля 42 красуль і ў параўнанні да 1969 года іх колькасць паменшылася амаль на 2 тысячы штук — галоўным чынам у раёнах ракі Нараў.

*М. Нурэцкі*

---

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!**

язычаскай міфалогіі, якая сваёй таямнічасцю і прыгажосцю так захапляла аўтара, што не быў ён у стане не выкарыстаць яе, хаця было нязгодным з хрысціянскай навукай.

Шостая рыса старарускіх твораў заключаецца ў глыбокай метафарычнасці тэкстаў. Амаль усе творы старарускай пары насычаны паэтычнымі параўнаннямі, сінонімамі, метафарамі, іншасказальнасцю. Высокая мастацкасць ідзе тут поплеч з глыбокай ідэйнасцю. Няма сумнення, што многія з тагачасных аўтараў былі ў душы дасканалымі паэтамі. Адносіцца гэта перш за ўсё да аўтара «Слова аб палку Ігаравым», якое не без падстаў некаторыя даследчыкі называюць гераічнай паэмай.

Сёмая рыса літаратуры Кіеўскай Русі датычыць яе патрыятызму. Амаль усе яе творы цесна звязаны з істотнымі для краіны або паасобных княстваў справамі. Аўтары цешыліся дасягненнямі сваіх княстваў і смуткавалі з прычыны няўдач сваёй зямлі. Сараліся яны прадухіліць міжусобіцы, узнімалі народ на барацьбу з страшэнным нашэсцем манголаў, якое канчаткова зруйнавала арганізм Кіеўскай Русі.

Стараруская пісьмовасць стварыла грунт, на якім узышлі парасткі і закласіліся нацыянальныя літаратуры беларусаў, украінцаў і рускіх — народаў, узрослых на руінах Кіеўскай Русі. Адсюль вынікае неабходнасць яе вывучэння і папулярызацыі.

---

X КОНКУРС САВЕЦКАЙ ПЕСНІ

# НАЙЛЕПШЫЯ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У выніку павятовых і гарадскіх элімінацый X конкурсу савецкай песні выбраны найлепшыя, якія прынялі ўдзел у ваяводскім аглядзе. Было іх 42 асобы — 36 салістаў і 3 дуэты.

Сярод салістаў узнагароды атрымалі: I — Януш Сабалеўскі з Монек, II — Віктар Фалюк з Беластока, III — Эва Левандоўская з Беластока, IV — Яніна Мілеўская з Ломжы, другую IV — Ірэна Чыжэўская з Аўгустова (горад), V — Мікалай Міраневіч з Беластока, VI — Юзэф Макоўскі з Аўгустова.

Былі прызнаны тры выружненні ўдзельнікам з Ломжы, Элку і Гайнаўкі.

Спецыяльныя ўзнагароды атрымалі Канстанцін Безюк з Бельска за добры голас і цікавую інтэрпрэтацыю песень, Эдвард Галэмбёўскі з Дамбровы за добрае адчуванне духа савецкіх песень, Мікалай Міраневіч з Беластока за найлепшае вымаўленне на рускай мове.

У дуэтах — I ўзнагароду здабылі Анна Куроўская і Ядвіга Завадская з Беластока. Другая і трэцяя не прызнаны.

Пастановай журы, на цэнтральным аглядзе X-га юбілейнага конкурсу савецкай песні ў Інаўроцлаве Беласточчыну будуць прадстаўляць пераможцы I-ай і II-ой узнагароды сярод салістаў і I-ая ўзнагарода ў дуэце.

Журы ваяводскіх элімінацый X конкурсу сцвердзіла агульны высокі ўзровень конкурсу ў сэнсе вакальным, інтэрпрэтацыйным і сцэнічнай культуры.

(вл)

---

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцік або шнурочак.*

• БІБЛІЯТЭЧКА "Нівы" • ВАСІЛЬ БЫКАЎ • ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ •



# ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

## ФІЗКУЛЬТУРА — ПРАДМЕТ ПЕРШАЧАРГОВЫ

Справа фізкультуры ў школе вельмі часта паяўляецца на старонках нашых газет, гавораць пра яе на розных сходах і сустрэчах. Ёсць шмат недахопаў у гэтай галіне школьнага выхавання. Сёння змяшчаем матэрыял аб тым, як вырашана справа школьнай фізкультуры ў СССР.

На пачатку гэтага года апублікавана тут «Палажэнне аб фізічным выхаванні вучняў агульнаадукацыйнай школы». Пра яго аб'ём і зацікаўленасць хай сведчыць і тое, што «Палажэнне» было прынята Міністэрствам асветы і камітэтам па фізічнай культуры і спорце, але ўзгоднена яно з ВЦСПС, ЦК ВЛКСМ і Міністэрствам аховы здароўя. «Палажэнне» аднолькава абавязковае як для настаўнікаў, так і для вучняў і іх бацькоў, і таму гэты дакумент можна назваць своеасаблівым статутам школьнай фізкультуры.

Якія ж задачы стаяць у гэтым статуце перад школай? Перш за ўсё гэта ўмацаванне здароўя дзяцей, затым развіццё іх фізічных здольнасцей, функцыянальных магчымасцей арганізма. Фізкультуры і спорту адводзіцца роля выхавацеля высокіх валявых і маральных якасцей: патрыятызму, інтэрнацыяналізму, калектывізму, смеласці, рашучасці, упорства і мэтанакіраванасці. З гэтага вынікае, што фізічнае выхаванне — гэта цэлая сістэма, у якой урок хоць і складае асноўную частку, але абавязкова падмацоўваецца іншымі формамі арганізацыі, такімі, як пазакласная і пазашкольная спартыўна-масавая работа (спартыўныя гурткі і секцыі) і фізкультурна-аздараўленчыя мерапрыемствы ў рэжыме для школ (гімнастыка да заняткаў, гульні і фізічныя практыкаванні на перапынках і т.п.).

Якая ж арганізацыя фізічнага выхавання дзяцей? Кіраўніцтва ажыццяўляецца міністэрствамі асветы пасобных рэспублік, але падкрэсліваецца і арганізуючая роля камсамольскіх і прафесіянальных арганізацый, органаў аховы здароўя. Аднак новы дакумент асабліва падкрэслівае неабходнасць і неадкладнасць штодзённай дапамогі школе з боку камітэтаў фізкультуры як у кадравых справах, так і ў інвентары і абсталяванні.



Самастойны раздзел «Палажэння» рэгламентуе абавязкі членаў педагагічнага калектыву школы. І так, напрыклад, класныя выхавацелі і настаўнікі абавязаны дабівацца захавання вучнямі рэжыму дня, выканання ранішняй гімнастыкі, садзейнічаць уцягненню навучэнцаў у секцыі і гурткі. Вялікія і разнастайныя абавязкі ў самога настаўніка фізкультуры: высокая якасць урокаў і арганізацыя пазакласнай работы, падрыхтоўка дзяцей да раённых спаборніцтваў, да здачы норм і патрабаванняў грамадскага інструктара і суддзі, кіраўніцтва школьным калектывам фізкультуры і арганізацыя ўнутрышкольных спаборніцтваў. «Палажэнне» зацвярджае абавязковасць стварэння ў кожнай школе калектыву фізічнай культуры.

І зусім асобны раздзел — зварот да бацькоў. Уключаецца ў абавязкі бацькоў кантроль за рэжымам і правіламі гігіены дзяцей, за рэгулярным выкананнем ранішняй гімнастыкі і заданняў настаўніка фізкультуры, заахвочванне да розных рухомых гульняў.

Па фізкультуры няма і не было экзаменаў, але цяпер органы народнай асветы разам з органамі аховы здароўя абавязаны штогод падводзіць вынікі работы па фізічным выхаванні і ўмацаванні здароўя школьнікаў.

Можна з поўным правам сказаць, што фізкультура становіцца ў СССР прадметам першачарговым.

*А. Л.*

## З ГЕСТАПА — У КАТА І МЫШ

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

13 мая 1941 года гестапаўцы падышлі да дзвярэй кватэры, дзе ў гэты час падпалкоўнік Машын, штабс-капітан Маравек і радыст Пелтан вялі перадачу інфармацыі Рэне ў Лондан. «Агенты гестапа чакалі ля ўваходу, — расказваў потым былы перакладчык гестапа. — Падпалкоўнік Машын, які выйшаў з кватэры, сутыкнуўся твар у твар з агентам, Мішке выстраліў праз паліто, папаў гестапаўцу ў жывот і працягваў адстрэльвацца. У яго таксама папалі, і, аслабеўшы ад страты крыві, ён упаў. Гестапаўскія агенты Клеменс і Егер скруцілі Машына, які спрабаваў застрэліцца».

Маравек таксама адкрыў агонь. Відавочна, яму ўдалося параніць трох гестапаўцаў. Калі пісталет заела, штабс-капітан зачыніў дзверы і разам з Пелтанам забарыкадаваў уваход у кватэру. Потым, апусціўшы ў акно стальны шост, абодва падпольшчыкі спусціліся з другога паверха. З акрываўленымі ад хуткага спуску рукамі яны кінуліся ўцякаць. Маравек ускочыў на хаду ў трамвай, і, перайшоўшы цераз яго пляцоўку, выскачыў на другі бок. Абодвум удалося ўцячы.

Цяжкапаранены Машын быў дастаўлен у гестапаўскі лазарэт. Ён назваўся афіцэрам чэхаславацкай арміі, але катэгарычна адмовіўся паведаміць сваё імя. Пры першай жа магчымасці Машын паспрабаваў уцячы, але яго спасцігла няўдача.

Машына перавезлі ў шпіталь турмы Панкрац, дзе надзелі яму ўціхамірвальную кашулю. У часе допытаў Машына па-зверску збівалі. Перакладчык расказваў: «На допыты яго дастаўлялі на насілках. Аднойчы вечарам я збіраўся ісці дамоў і ўбачыў, як Машына неслі на насілках, з якіх капала кроў. 30 чэрвеня 1941 года яго расстралялі. Ён нікога не выдаў. Да самага расстрэлу з Машына не здымалі кайданаў. Ён памёр са словамі: «Няхай жыве Чэхаславацкая Рэспубліка!»

Страта тайнага перадатчыка напярэдадні нападу на Савецкі Саюз, прадказанага Рэне, з'явілася цяжкім ударам для чэшскага падполля, якім пасля падпалкоўніка Машына пачаў кіраваць штабс-капітан Маравек.

Гестапа спрабавала схапіць Маравека яшчэ ў сакавіку 1940 года. Але калі агенты прыйшлі на кватэру, каб яго арыштаваць, яна аказалася пустой. Рэне паспеў своечасова папярэдзіць падпольшчыка. Кіраўнік гестапаўскай групы, якая павінна была яго арыштаваць, інспектар Флейшар «канфіскаваў» тады для «асабістых патрэб» зімовае паліто Маравека. З гэтага моманту паміж Маравекам і Флейшарам пачалася гульня, у якой апошні прайграваў.

Цяпер пошук набыў яшчэ больш шырокі размах. Гестапа падазравала многіх. Так, напрыклад, з горада Ліберэц (Рэйхенберг) быў дастаўлены ў кайданах відны чыноўнік нацысцкай партыі, які ў свой час працаваў у германскім абверы. Яго допыт не даў вынікаў, бо палкоўнік Хуравы не змог апазнаць у ім чалавека, з якім аднойчы размаўляў.

Неўзабаве пасля гэтага падазрэнне пала на высокапастаўленага служачага нямецкай разведвальнай службы — капітана Бернгарда Лейдла.

«Я павінен быў тады разам з Абендшэнам ехаць у Берлін, — заявіў гестапавец Шарх пасля вайны, — каб даставіць палкоўніка Хуравы ў ОКВ. У III аддзяленні (абвер — зарубежныя краіны) Хуравы змог назіраць Лейдла праз дзвярную шчыліну і чуць яго голас. Хуравы дапускаў магчымасць, што гэта і ёсць Рэне. Капітан Лейдл быў арыштаваны і дастаўлены ў Прагу, але там яму не змаглі прад'явіць ніякіх абвінавачванняў, і ён быў выпушчаны на свабоду».

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## БЕЛЬСКАЯ ІНВАЛІДСКАЯ СПУЛДЗЕЛЬНЯ

Інвалідская спулдзельня «Пшышлосць» (будучыня) у Бельску Падляшскім вядзе такую гаспадарчую дзейнасць. На папяровым прадпрыемстве вырабляюцца кардонныя ўпакаванні ў вялікім асартыменце. Сталымі заказчыкамі з'яўляюцца варшаўскія прадпрыемствы, прадпрыемствы ў Тархоміне, у Беластоку і Граеве.

Спулдзельня гэтая робіць таксама фільцовыя боты, а таксама выконвае інтралігатарскія паслугі, рамонт абутку, кравецкія, рымарскія і паслугі па дагляду маёмасці.

За 1970 год інвалідская спулдзельня «Пшышлосць» выпрацавала чыстага даходу 1.450 тысяч зл. на планаваныя 1.265 тысяч зл.

Зараз спулдзельня гэта падрыхтоўваецца да выконвання паліграфічных паслуг. Машыны, заказаныя ў ГДР, кошт якіх складае суму 600 тысяч зл., спулдзельня ўжо атрымала. Кіраўніцтва спулдзельні наладзіла ўжо сувязь з друкарняй у Беластоку, якая акажа прафесіянальную дапамогу.

Працуе ў спулдзельні 237 асоб, у тым лішу 180 інвалідаў. Людзям, пакрыўджаным лёсам, спулдзельня забяспечвае працу, нядрэнныя заробкі, так што адчуваюць яны сябе патрэбнымі.

*Уладзімір Кучынскі, Бельск Падляшскі*

## РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

Вінцук Боўтрык з вёскі Боўтрыкі, што ў Беластоцкім павеце, чалавек вельмі здольны. Ад свайго бацькі навучыўся кавальству, а пазней слёсарству і сталярству. Меў ён, як кажуць, голаў да ўсіх рамесных прафесій. Падчас нямецкай акупацыі навучыўся кравецтву. Цэлы час працаваў ён на гаспадарцы, а калі меў час, займаўся рамяствам у Боўтрыках. У 1950 годзе выехаў у Гайнаўку і пачаў працаваць слёсарам на хімічнай фабрыцы. Тут выявіліся ў яго рацыяналізатарскія здольнасці. На працягу шасці гадоў працы зрабіў ён шмат рацыяналізатарскіх прапаноў. 10 з іх было прынята і ўведзена да прадукцыі. Вінцук Боўтрык атрымаў за кожную прэмію, таму што давалі яны прадпрыемству вялікія ашчаднасці.

З прычыны прафесіянальнай хваробы вымушаны ён быў кінуць працу на хімічнай фабрыцы. Тады прыняты быў на Гайнаўскае прадпрыемства машынна-лясной прамысловасці, дзе зноў зрабіў некалькі рацыяналізатарскіх прапаноў і, як заўсёды, зноў атрымаў за іх узнагароды.

Ад мінулага года Вінцук Боўтрык працуе на фабрыцы мэблі. Але дзе б ён ні працаваў, жылка рацыяналізатара заўсёды праявіцца. Ужо тут 4 яго рацыяналізатарскія прапановы ўведзены ў прадукцыю.

Гэты чалавек з'яўляецца таксама актыўным грамадскім дзеячом. Неаднойчы выконваў функцыю члена рады прафсаюзаў прадпрыемства. Ад 1960 года з'яўляецца актыўным членам БГКТ.

*Васіль Дзун, Гайнаўка*

## УСЕБАКОВАЯ ПАСЛУГОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Крынкаўскі ГС сваёй дзейнасцю ахоплівае амаль 60 вёсак. Абслугоўвае ён жыхароў грамадскіх рад нарадовых у Крынках, Шудзялаве, Бабіках, Сакалдзе, Гуранах і Гурцы. Гэта даволі вялікі абшар. Ад Бабікаў да Рудакоў 40 км, а ад Крынак да Суражкова 36 км.

У ГС-е працуе 115 чалавек, у тым ліку 33 рабочыя. Апрача таго, ёсць 5 вучняў (4 у масарні і 1 у пякарні) і 35 агентаў кантрактацыі. ГС мае 2 пункты скупкі збожжа, 2 пункты скупкі жывёлы, 2 — ільнянога валакна і воўны, 2 — прамысловых адпадкаў і злому і адзін пункт скупкі сырых скур. Ёсць таксама тры пункты продажу мінеральных угнаенняў.

Крынкі славяцца вельмі здаровай і смачнай вадою і таму на ГС-аўскую прадукцыю аранжады і газіраванай вады ёсць у Сакольскім павеце вялікае запатрабаванне. Добрай якасцю славяцца таксама масарскія вырабы і крынкаўскі хлеб і булкі.

З паслуговых пунктаў варта падкрэсліць такія, як пункт убою быдла і свіней, пякарня, ачышчальня збожжа, пазычальня прылад да вырабу будаўляных матэрыялаў (пустачарка, дахаўчарка), пазычальня пасуды, шклярскі пункт і іншыя. Крынкаўскі ГС вядзе шматгранную дзейнасць, дзейнасць, якая неабходная ў жыцці данай мясцовасці. Тут трэба падкрэсліць перш за ўсё гандлёвыя паслугі. Ёсць шмат крам ГС-у ў самых Крынках, апрача таго, ёсць яны ў Шудзялаве і па адной ва ўсіх большых вёсках.

*А. С., Сакольскі павет*

## ЗА ДОБРЫ СЕЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

У грамадзе Храбалы (Бельскі павет) налічваецца 675 гаспадароў. Структура гэтых гаспадарак наступная: найбольш, бо аж 262 гаспадаркі, складаецца з 7 — 10 га, 104 гаспадаркі маюць ад 5 да 7 га, 55 гаспадарак — ад 2 да 5 га. Зусім невялікая колькасць сялян, якія маюць да 2 гектараў, а таксама больш 10. Сяляне грамады Храбалы ў асноўным добра гаспадараць, выкарыстоўваюць у апрацоўцы зямлі агратэхнічныя ўказанні. Вялікую ўвагу звяртаюць яны на аднаўленне сеўнага матэрыялу. Ужо пачынаюць садзіць бульбу. У асноўным сеўны матэрыял бульбы быў падрыхтаваны восенню мінулага года. З бельскай насеннай цэнтралі сяляне грамады Храбалы атрымалі 428 тон кваліфікаванай бульбы. Згодна з планам, насенная цэнтраля павінна цяпер даставіць у грамаду Храбалы 280 тон насеннай бульбы, а 90 тон насеннай бульбы разлічана на суседскі абмен.

*А. Трафімчук, Храбалы*

## ДАПАМОЖАМ!

Заклік І-га сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка адносна павелічэння прадукцыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі горача падтрыманы сялянамі Гайнаўскага павета. Так, напрыклад, гаспадары грамады Стары Корнін масава падпісваюць абавязацельствы аб павелічэнні сельскагаспадарчай вытворчасці, а перш за ўсё жывёлагадоўлі. На 536 гаспадарак у грамадзе прынялі ўжо абавязацельствы 279 гаспадароў. У паасобных вёсках выглядае гэта так: у Карыцісках на 45 гаспадароў прыняло абавязацельствы 40 гаспадароў, якія задэкляравалі выгадаваць на 159 штук свіней і на 63 штукі быдла больш, як у мінулым годзе. Павел Яшчук, напрыклад, у гэтым годзе выгадуе больш, як у мінулым, на 20 штук свіней і адну карову, а Аляксей Томчук, Андрэй Івацюк, Андрэй Дарашук, Іван Троц, Сяргей Томчук і Мікалай Юзвюк — на 10 штук свіней і 2 штукі быдла больш. Антон Патэюк абавязаўся выгадаваць больш на 5 штук свіней і 2 штукі быдла.

*К. В., Карыціскі*




*Дарагое Сэрцайка!*

Другі год я ўжо ў войску. Перад войскам пазнаёміўся я з дзяўчынай, якая пражывае ў вёсцы пад Беластокам, я таксама з Беластоцкага павета. Дзяўчына мая прыгожая і разумная. Ужо год, як чакае мяне, не ходзіць з іншымі хлопцамі, як гэта часта бывае. У кожным пісьме піша ўсё да мяне, што чакае і будзе яшчэ год чакаць, аж пакуль я вярнуся. І я шчаслівы, што каханы чалавек чакае мяне. Мяне таксама не цікавяць іншыя дзяўчаты, я толькі думаю пра Аню. Думаю, што неўзабаве я павінен атрымаць водпуск на пару дзён. Тады хачу я сустрэцца з Аняй. Найлепш нам будзе сустрэцца ў Беластоку, а потым разам з Аняй паедзем да яе бацькоў. І вось у сувязі з гэтым я думаю, што мне не выпадае ехаць да яе бацькоў з «пустымі рукамі». На вёсцы ж так ужо прынялося, што хлапец ідзе з «паўлітроўкай» да хаты дзяўчыны. Але я, Сэрцайка, ужо пабываў трохі, як кажуць, «у людзях» і мне неяк гэтая вясковая традыцыя не вельмі падабаецца. І грошай, вядома ж, я не маю замнога. Напішы, як паступіць. Усё ж хацелася б чым-небудзь сустрэць Аню.

*Янка, Варшава*

*Янка!* Маеш рацыю, што традыцыя «паўлітроўкі» табе не адпавядае. Гэта ж брыдка выглядае, калі госць прыходзіць у хату са сваёю гарэлкай, а мо яшчэ і закускай. А вядома, хацелася б чым-небудзь сустрэць Аню. Тады найлепш будзе, калі вышаўшы з цягніка ў Беластоку, купіш у бліжэйшай квяцярні прыгожую кветку. Гэта будзе найбольшая радасць для Ані, бо кожная дзяўчына любіць, вельмі любіць атрымліваць ад любага кветкі. Выдатак невялікі (цяпер ужо кветкі недарагія), а прыемнасць і радасць — вялікая.

Прыемнай сустрэчы.

*Сэрцайка*

## ТУРНІР СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ВЕДАЎ

«Навукай і працай змяняем аблічча нашай вёскі» — пад такім лозунгам адбываліся 20 сакавіка г.г. спаборніцтвы «Сельскагаспадарчай алімпіяды» ў карыцкай святліцы. Прыняло ўдзел у эліміна-цыях 20 жыхароў старакорнінскай ГРН. Адказы былі вельмі дарэчныя і цікавыя. Сведчыць гэта аб тым, што сяляне чытаюць многа сельскагаспадарчых кніжак і прэсы. Ацэньвала адказы журы: Валодзя Шэшка (грамадскі заатэхнік), Эдуард Маркевіч (сакратар КЗСЛ), Васіль Кудэрскі (прэзас ГК ЗСЛ), Мікалай Грыгарук (Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў) і Янка Дарашук (сакратар ГК ПАРП). Пытанні датычылі жывёлагадоўлі, а таксама апрацоўкі зямельных угоддзяў. Першае месца журы прызнала маладому гаспадару з вёскі Стары Корнін — Зацiку Казіміруку. Другое месца заняў Янка Міхалюк, а трэцяе Вячэслаў Мікуліч — абодва з Карыціск. Усе ўдзельнікі алімпіяды атрымалі рэчавыя ўзнагароды.

Пасля элімінацый адбылася артыстычная частка. Выступіла вакальная група «Маладычныя промні» з сельскагаспадарчай школы ў Бельску Падляшскім.

Гэтакае мерапрыемства напэўна яшчэ больш мабілізуе сялян да чытання сельскагаспадарчых кніжак і прэсы.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

## ЯЎГЕНЬ ГАРУСТОВІЧ

Які кіраўнік — такая школа. Калі ён дбайны, калі клапоціцца, каб школа выглядала прыгожа і сваім выглядам агітавала за высокую культуру, тады гэтак ёсць. Вось, напрыклад, кіраўнік пачатковай школы ў Дубінах — Яўген Гарустовіч многа клапаціўся, каб школу разбудаваць, каб яе аднавіць, каб у ёй была амаль ідэальная чысціня і парадак. І гэтага ён дабіўся. Прыемна, прыгожа там у кожнай школьнай зале.

(хм)

Кіраўнік школы Яўген Гарустовіч чытае даклад на ўрачыстай акадэміі, прысвечанай гадавіне Савецкай Арміі.

*Фота В. Бура*

## АКТЫЎНЫ ГУРТОК

Сярод многіх гурткоў БГКТ у Гайнаўскім павеце вельмі актыўна працуе гурток у Ставішчах. Ужо ў пачатку 1971 года ўсе члены яго (а ёсць іх 52) аплацілі складчыны. Сістэматычна гурток праводзіць сходы, на якіх закранае хвалюючыя справы вёскі. Гурток абавязаўся грамадскім чынам дапамагчы будаваць рамізу — святліцу і вясковую краму. У апошні час гурток БГКТ стварыў спартыўны калектыў. Да самых актыўных членаў гуртка залічваюцца: Юрка Рашчэнка (старшыня), Валя Лагвіюк, Лявон Селех і Андрэй Дубяга.

Гуртку аказвае заўсёды дапамогу праўленне гайнаўскага аддзела БГКТ. Нядаўна аддзел перадаў гуртку радыёлу «Бамбіна» і футбольны мяч.

*Віктар Бура, Гайнаўка*



*Прадстаўнік праўлення аддзела БГКТ Уладзімір Гацута ўручае футбольны мяч моладзі ў Ставішчах.*

## КЛОПАТЫ ВЁСКІ

У Паўднёвым Востраве, што на Сакольшчыне, многа год была крама. Нягледзячы на тое, што прыватнае памяшканне, у якім знаходзілася крама, даволі нязручнае, цеснае, але людзям было добра, бо што толькі хочаш, пойдзеш ды купіш. Нават хлеб даволі добра разыходзіўся. Ад 1-га красавіка закрыта крама. Крынкаўскі ГС забраў усе тавары. Прычына простая: не найлепш спраўлялася са сваімі абавязкамі прадаўшчыца і таму ад гэтай пасады адмовілася. А другой асобы, якая б згадзілася працаваць у краме, у вёсцы няма. Жыхарам вёскі цяпер вельмі дрэнна. Па прадукты і тавары штодзённай патрэбы мусяць ісці ў суседнія вёскі або ехаць за 5 км у Крынкі. Асабліва жанчыны маюць вялікія клопаты з продажам яек.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Labirynt miłości" (radz.), 27—28.IV. „Przed wojną" (jugosł.), 29—30.IV. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 1—2.V.

**НАРАЎКА**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 28.IV—2.V.

**НАРВА**

„Lenin —karty życiorysu" (radziecki), „Trzy godziny miłości" (jugosł.), 28.IV—2.V.

**ЧЫЖЫ**

„Wyspa na lądzie" (węgierski), „Trzy godziny miłości" (jugosł.), 28.IV—2.V.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Doczekać zmroku" (USA), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radziecki), 28.IV—2.V.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Robójnicy sycylijscy" (włoski), 28.IV—2.V.

**ОРЛЯ**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 28.IV—2.V.

**РАЙСК**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 28.IV—2.V.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 27—28.IV. „Ściana czarownic" (polski), 29—30.IV. „Pippi" (szwedzki), 1—2.V.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Aleksander Newski" (radz.), 27—28.IV. „Wątła nić" (USA), 29—30.IV. „Faraon" (polski), 1—2.V.

**ЯНАЎ**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), 28.IV—2.V.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 27—28.IV. „Życie raz jeszcze" (polski), 29—30.IV. „Dr Fabrizus działa" (NRD), 1—2.V.

**МЕЛЬНІК**

„Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 27—28.IV. „Czarny mustang" (USA), 29—30.IV. „Listek figowy" (węgierski), 1—2.V.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Abel twój brat" (polski), 28—28.IV. „W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 29—30.IV. „Jeśli dziś wtorek, to jesteśmy w Belgii" (ang.), 1—2.V.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**НОВЫ ДВОР**

„Raj na ziemi" (polski), „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 23.IV — 2.V.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7254 F-3

